Праваабарончы
# Веснік
жнівень 2011
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# АРЫШТАВАНЫ ПРАВААБАРОНЦА АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

**Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі затрыманы ў Мінску 4 жніўня.**

**Яму 12 жніўня прад'яўвілі абвінавачанне па частцы 2 арт.243 Крымінальнага кодэксу («Ухіленне ад уплаты сумаў падаткаў і збораў у асабіва буйным памеры»), а 16-га - падоўжылі тэрмін утрымання пад вартай на два месяцы. Зараз Алесь Бяляцкі ўтрымліваецца ў СІЗА па вул. Валадарскага ў Мінску.**


*Фота Юліі Дарашкевіч*

*Алесь Бяляцкі*

# БІЯГРАФІЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

Алесь Бяляцкі — беларускі праваабаронца , грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца. Арыштаваны па крымінальнай справе нібыта за ўхіленне ад выплаты падаткаў і збораў у асабліва буйным памеры. Міністэрства юстыцыі Літвы задаволіла запыт уладаў Беларусі і перадала інфармацыю пра рахункі Алеся Бяляцкага, на якія пералічваліся сродкі для дзейнасці па абароне правоў чалавека. Кіраўніку ПЦ «Вясна» пагражае да 7 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

Кароткія звесткі (паводле ПЦ «Вясна» – сайт www.spring96.org):

Нарадзіўся ў 1962 г. у Карэліі (РСФСР), дзе працавалі бацькі. У 1964 г. сям'я вярнулася на радзіму. У Светлагорску скончыў сярэднюю школу, потым беларуска-рускае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэту Гомельскага дзяржуніверсітэту, пасля службы ў войску – аспірантуру Інстытута літаратуры НАН Беларусі ў Мінску.

У 1986 г. Алесь Бяляцкі стаў адным са стваральнікаў **Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя»**, быў старшынём гэтай арганізацыі. У 1988 г. выступіў адным з заснавальнікаў таварыства **«Мартыралог Беларусі»**, быў сябрам Арганізацыйнага камітэту **Беларускага Народнага Фронту.** У 1990 г. разам з іншымі ўдзельнічаў у стварэнні **Беларускай Каталіцкай Грамады.**

З 1989 па 1998 гг. ўзначальваў **Літаратурны музей Максіма Багдановіча**, стаў першым дырэктарам, не прызначаным зверху, а аднагалосна абраным калектывам установы на конкурснай аснове. У 90-я гады музей з'яўляўся адным з асяродкаў беларускага асветніцтва, на доўгі час тут знайшлі прытулак рэдакцыі незалежных газет **«Свабода»** і **«Наша Ніва»**.

У 1990-1996 гг. Алесь Бяляцкі – дэпутат Мінскага гарадскога савету.

У 1996 г., пасля жорсткага разгону мірнай акцыі «Чарнобыльскі шлях» і рэпрэсій супраць яго ўдзельнікаў, Алесь Бяляцкі стварае **Праваабарончы цэнтр «Вясна»**.

У 1999 годзе са з'яўленнем філіяў ПЦ «Вясна» стаў арганізацыяй рэспубліканскага маштабу. Сёння сябрамі праваабарончай арганізацыі з'яўюцца сотні валанцёраў. Аднак нашым уладам праваабаронцы не патрэбны.

У 2003 ПЦ «Вясна» быў ліквідаваны рашэннем **Вярхоўнага Суда Беларусі** за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. **Камітэт ААН па Правах Чалавека** прызнаў, што ліквідацыя «Вясны» з'яўляецца парушэннем дзяржавай Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Нягледзячы на гэта, дамагчыся новай дзяржрэгістрацыі ў 2008-2009 гг. праваабаронцам тройчы не ўдалося.

У 2007 годзе Алесь Бяляцкі абраны віцэ-прэзідэнтам **Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека FIDH** (The International Federation for Human Rights).

Алесь Бяляцкі быў двойчы вылучаны на Нобелеўскую прэмію міра: у 2006 і 2007 гадах.

Мужная і паслядоўная пазіцыя Алеся Бяляцкага па адстойванню правоў чалавека ў Беларусі і ва ўсім свеце адзначалася многімі міжнароднымі ўзнагародамі. У 2006 годзе ён быў узнагароджаны Шведскай прэміяй імя Пера Ангера, Прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава (Нарвежскі Хельсінскі камітэт), Прэміяй Homo Homini арганізацыі People in Need («Чалавек у бядзе»). Муніцыпалітэт горада Генуя (Італія) ў 2010 годзе надаў Алесю Бяляцкаму званне «ганаровы грамадзянін Генуі». У 2011 годзе Алесь Бяляцкі быў уганараваны Прэміяй Свабоды Атлантычнай Рады ЗША.

## НА АРЫШТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

4 жніўня 2011 г. у Менску быў затрыманы і ўзяты пад варту старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі. Здарылася тое, што, напэўна, не магло не здарыцца з кіраўніком адной з найбольш актыўных праваабарончых арганізацыяў ва ўмовах жорсткага аўтарытарызму, у якіх знаходзіцца Беларусь на працягу апошніх 17 гадоў. Аднак пры гэтым узнікае шэраг пытанняў: чаму гэта адбылося зараз, а не, скажам, у 2006-ым ці 2008-ым гадах? Тым больш, што фармальная падстава для крымінальнага пераследу Алеся і іншых сябраў "Вясны" з 2006-га заўсёды была пад рукой – сумнавядомы артыкул 193.1 Крымінальнага кодэкса. Балазе, ні Алесь, ні я, ні іншыя сябры "Вясны" не хавалі, што працягваюць дзейнасць у межах арганізацыі, нягледзячы на яе ліквідацыю Вярхоўным Судом Беларусі ў 2003 годзе.

Тое, што Праваабарончы цэнтр "Вясна" аказвае ў тым ліку і матэрыяльную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэння правоў чалавека, ні для каго не было сакрэтам. Пра месца знаходжання офіса "Вясны" ведаюць практычна ўсе грамадска-палітычныя актывісты краіны, якія патраплялі пад пераслед з боку ўладаў. За 15 гадоў свайго існавання ПЦ "Вясна" аказаў дапамогу тысячам беларусаў. Пра гэта ведаюць сваякі палітвязняў, сваякі зніклых у 1999-ым годзе палітыкаў, тысячы беларусаў, якія падвяргаліся розным адміністратыўным спагнанням за сваю грамадска-палітычную дзейнасць.

Падчас падзеяў 2006-га, пост-снежаньскіх падзеяў 2010-га і лета 2011-га ПЦ "Вясна" засведчыў, што можа дзейсна аказваць дапамогу рэпрэсаваным нават ва ўмовах, калі гэтыя рэпрэсіі набываюць масавы характар. Падчас маўклівых акцыяў пратэсту менавіта ў ПЦ "Вясна" былі перададзеныя грашовыя сродкі, сабраныя грамадзянамі

*Працяг на стар. 2*

# НА АРЫШТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1*



*Валянцін Стэфановіч*

у дапамогу рэпрэсаваным удзельнікам акцый. Для мяне асабіста гэта было праявай поўнага і абсалютнага даверу да арганізацыі з боку беларускай грамадзянскай супольнасці і пацверджаннем высокага аўтарытэту "Вясны" ў Беларусі. Усе апошнія месяцы на офісе "Вясны" не скончаўся наплыў людзей, якія былі арыштаваныя ці ашрафаваныя за тое, што пасмелі пляскаць у далоні на вуліцах родных гарадоў. Прычым працавалі мы і працягваем працаваць фактычна адкрыта, нікуды не хаваючыся.

Ведалі пра гэта і спецслужбы краіны. Недарэмна падчас апошніх ператрусаў на офісе "Вясны" і асабістай кватэры Бяляцкага супрацоўнікаў КГБ цікавілі выключна фінансавыя дакументы: распіскі, квітанцыі і г.д. Таму логіка ўладаў мне падаецца тут абсалютна зразумелай. Летнія "маўклівыя акцыі" засведчылі пра павелічэнне пратэстных настрояў у грамадстве, асабліва на фоне эканамічнага крызісу, што ахапіў краіну. Улады знаходзяцца ў прадчуванні "гарачай" восені, зімы, а, магчыма, і вясны 2012 г. Знішчэнне структуры, якая аказвае рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў, у дадзенай сітуацыі - прыярытэт для спецслужбаў. У "Вясне", якая так доўга муляла ім вочы, беларускія улады ўгледзелі сур'ёзную пагрозу. Прычым настолькі сур'ёзную, што, нават разумеючы і ведаючы пра вялікі негатыўны розгалас і магчымыя не менш негатыўныя наступствы, вырашылі-такі ізаляваць Бяляцкага. А гэта не жарты - узяць ды пасадзіць дзейнага віцэ-прэзідэнта адной з найстарэйшых і уплывовых міжнародных арганізацый – Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека. Горш было толькі з прэзідэнтам FIDH, які быў расстраляны падчас фашысцкай акупацыі Францыі ў гады другой сусветнай вайны. Я ўжо не кажу пра такія рэчы, як праваабарончая міжнародная салідарнасць, якая па сваёй сіле не саступае салідарнасці журналісцкай.

Тым не менш, улады пайшлі на гэтыя крокі, прычым адразу пасля мінскіх падзеяў 19 снежня 2010 г. Менавіта з гэтага дня пачаўся асаблівы інтарэс спецслужбаў да "Вясны" –два ператрусы ў офісе, ператрусы на асабістай кватэры і лецішчы Алеся. Усяго за апошнія сем месяцаў офіс "Вясны" перажыў пяць уварванняў прадстаўнікоў міліцыі і КГБ. А чаго вартая пастаянная дэфамацыя Бяляцага і "Вясны" ў дзяржаўных СМІ. Вядома, што "Вясна" і асабіста Алесь Бяляцкі – прынцыповыя і жорсткія крытыкі дзеючага рэжыму. Бяляцкі неаднаразова заклікаў да жорсткіх санкцыяў з боку ЕС у дачыненні да рэжыму Лукашэнкі - у сувязі з сістэматычнымі і грубымі парушэннямі правоў чалавека ў краіне. Адзін з такіх выступаў Бяляцкага ў ПАСЕ выклікаў асабліва негатыўную рэакцыю Лукашэнкі і дзяржаўнага тэлебачання. Пасля гэтага мне здалося, што расправа над Алесем - гэта пытанне часу...

Трэба адзначыць, што ўлады даўно і грунтоўна рыхтаваліся для гэтай "спецаперацыі". Прычым прапрацоўвалі розныя варыянты яе практычнага ажыццяўлення. Ад ужывання артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса ў дачыненні, найперш, да кіраўніка арганізацыі "Вясны" (пра што сведчыць папярэджанне Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, вынесенае Алесю Бяляцкаму ў лютым гэтага году) да іншых магчымых варыянтаў. І гэты іншы магчымы варыянт быў прадастаўлены спецслужбам Беларусі Мінюстам суседняй Літвы. Вядома, варыянт адправіць Бяляцкага за краты за нібыта ўтойванне падаткаў мае значна больш перавагаў для ўлады, чым ужыванне відавочна палітычнага 193.1 КК. Беларускай і міжнароднай грамадскасці заўсёды можна паспрабаваць растлумачыць, што арыштаваны не праваабаронца, а звычайны "ухаліст", які чамусьці не хацеў сплочваць у бюджэт роднай дзяржавы падаходны падатак з замежнай дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій гэтай жа дзяржавы.

Інфармацыя аб нашых банкаўскіх рахунках у Вільні была перададзеная Мінюстам Літвы ў Беларусь яшчэ ў сакавіку гэтага году. Толькі напрыканцы чэрвеня я і Алесь былі выкліканыя ў раённыя аддзяленні Міністэрства па падатках і зборах, дзе нам былі прад'яўленыя акты камеральных праверак і раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў. Прычым на ўсіх дадзеных раздрукоўках стаялі штампы ДФР. Такім чынам, фармальна ДФР мог узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да Алеся як мінімум у чэрвені – на пачатку ліпеня. Аднак не ўзбудзіў. Прычым ні мне ні Алесю не было абмежавана права на выезд за межы краіны, хаця фармальныя падставы для гэтага былі. У Алеся складалася ўражанне, што ўлады адмыслова праз падатковую інспецыю паказалі яму гэтыя дакументы - даючы такім чынам час на роздум. Вядома, для ўладаў Беларусі было б лепей, калі б Бяляцкі сам вырашыў іх праблему - выехаўшы за мяжу, эміграваўшы пад пагрозай крымінальнага пераследу. Скажу шчыра, што мы, сябры Рады ПЦ "Вясна", прапаноўвалі яму такі варыянт, паколькі прадбачылі магчымае развіццё падзеяў. Аднак Алесь адмёў нашыя прапановы. Ён сказаў, што ніколі не з'едзе з краіны і калі ўлады хочуць пасадзіць яго ў турму за тое, што ён дапамагае людзям, то гэта праблема ўладаў.

Аднак зараз у следства складаная задача. Ім трэба даказаць, што сумы грошай, пералічаныя на рахунак Бяляцкага, з'уляліся яго асабістым даходам. Згодна з нашым падаткавым заканадаўствам, менавіта даход падлягае падаткаабкладанню. У дадзеным выпадку гэтыя грошы паступалі на канкрэтна акрэсленыя фондамі мэты і расходаваліся выключна на іх. Мы маем пераканаўчыя доказы таго, што дадзеныя грошы не з'яўляліся асабістым даходам Бяляцкага. Хоць наўрад ці гэтыя доказы будуць пераканаўчымі для нашых суддзяў, якія ўжо даўно ператварыліся ў "хлопчыкаў і дзяўчынак па выкліку" для абслугоўвання чарговых "хапуноў"-сілавікоў. Суд у Беларусі - рэч вельмі прадказальная.

Я ўсведамляю, што арышт Бяляцкага - гэта не апошнія захады ўладаў у дачынні да "Вясны". Калі задача ўладаў заключаецца ў разгроме арганізацыі, то гэта вымагае новых і новых арыштаў. Аднак лепшае, што зараз мы можам зрабіць для Алеся - гэта захаваць дзеяздольнасць арганізацыі. Мы павінны прыкласці намаганні, каб дапамога ахвярам рэпрэсій не спынялася, як і іншыя накірункі нашай дзейнасці. За 15 гадоў свайго існавання мы пабачылі і зведалі рознае. Мы мусім ісці наперад, бо людзям патрэбная нашая дапамога, бо мы патрэбныя людзям. Як кажуць на Усходзе, "Прокопов лает, а караван идёт". Мы будзем змагацца за вызваленне ўсіх палітвязняў, за вызваленне Алеся. І я проста ўпэўнены, што мы хутка ўсіх іх пабачым на волі.

А "таварышам чэкістам і лукашыстам" я хацеў бы сказаць, што вы падавіцеся Бяляцкім і мы, "вясноўцы", прыкладзем для гэтага ўсе свае намаганні.

**Валянцін Стэфановіч**

## У МАГІЛЁВЕ САБРАНА БОЛЬШ ЗА 100 ХАДАЙНІЦТВАЎ ЗА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

Больш за 100 жыхароў Магілёўскай вобласці падпісалі хадайніцтвы аб асабістым паручальніцтве за вядомага праваабаронцу Алеся Бяляцкага.

Збор хадайніцтваў у горадзе працягваецца. Сярод тых, хто далучыўся да кампаніі ў падтрымку А.Бяляцкага - грамадскія і палітычныя актывісты, грамадзяне, якія раней звярталіся па дапамогу ў Праваабарончы цэнтр «Вясна».

Трэба адзначыць, што па краіне назбірана больш 600 хадайніцтваў. Збор ладзяць праваабарончыя арганізацыі "Вясна" і "Беларускі Хельсінкскі камітэт", а таксама "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

12 жніўня тэрмін зняволення вядомага беларускага праваабаронцы быў працягнуты на два месяцы. Яго вінавацяць у нявыплаце падаткаў у асабліва буйных памерах. А.Бяляцкаму пагражае да 7 год пазбаўлення волі.

## ТРОЕ МОГИЛЕВЧАН ЗАДЕРЖАНЫ ВО ВРЕМЯ АКЦИИ В ПОДДЕРЖКУ АЛЕСЯ БЕЛЯЦКОГО

23 августа в Могилёве правозащитный центр «Весна» провёл акцию в поддержку белорусского правозащитника Алеся Беляцкого, задержанного 4 августа в Минске. В ходе акции планировалось информировать могилевчан о личности правозащитника, его деятельности и достижениях. Листовки, которые активисты раздавали прохожим, содержали также и информацию о самом правозащитном центре. Местом распространения печатного материала стала улица Первомайская в районе площади Ленина.

Правозащитники и общественные активисты начали раздавать листовки прохожим у Минского рынка и продвигались по Первомайской в сторону старого подземного перехода. Акция стартовала около двух часов дня. Когда участники акции повернули на проспект Мира, листовок у них уже почти не оставалось. Интерес к происходящему проявляли не только встречные могилевчане, но и сотрудники правопорядка. Так, к одному из участников акции активисту гражданской кампании «Наш дом» Павлу Ворошилову подошёл милиционер, которому Павел сразу же вручил листовку об Алесе Беляцком. Человек в форме связался с кем-то по рации и вызвал подкрепление. Павла забрали в ближайший опорный пункт милиции. Помимо активиста кампании «Наш дом» сотрудники милиции также задержали журналистов Алину Скребунову и Евгения Глушкова, находившихся в центре города. Их забрали от кинотеатра «Родина».

Задержанным журналистам пояснили, что везут в РОВД, чтобы установить их личности. После составления протокола о допросе они смогли попрощаться со служителями правопорядка и вернуться к своим обычным делам.

Акция носила информационный характер и, по всей видимости, является реакцией правозащитного центра на отказ городских властей в проведении пикета в поддержку Беляцкого.

Мы связались с Алиной Скребуновой и попросили её рассказать, как прошёл её сегодняшний день.

Алина Скребунова:

- Это был очень сложный рабочий день :). Несмотря на мои прежние «контакты с правоохранительными органами», ничего заранее предусмотреть было невозможно. Чтобы таких «контактов» больше не случилось, мне, видимо, просто нужно не выходить из дома. А как иначе, если меня выслеживают и уже поджидают автобусы со спецназом? Я действительно сегодня была на остановке площадь Ленина в обеденное время, как раз когда там раздавали листовки. Даже успела сделать пару кадров.

Ушли мы оттуда ещё до задержания молодого человека, который раздавал листовки. Успели дойти до Площади Звёзд, где ждал пазик, который доставил нас в Ленинский РОВД.

Листовки раздавались в районе площади Ленина, но как так получилось, что меня поджидал пазик со спецназом около кинотеатра «Родина»? И почему меня, почему пазик не поехал за всеми, кто получил в этот день по листовке? А может, за ними придут ночью? Если кто-либо из сотрудников правоохранительных органов всё ещё не получил заветной листовки, то могу поделиться своей – мне сегодня тоже вручили.

*«222.by»*

# БЕЛЯЦКОМУ ПРЕДЪЯВЛЕНО ОБВИНЕНИЕ

**Мировая общественность продолжает требовать освобождения правозащитника Алеся Беляцкого, а в Литве и Польше, передавших белорусским властям информацию о его банковских счетах, что стало основанием для ареста, разгораются политические скандалы.**

Председателю незарегистрированного правозащитного центра «Вясна», вице-президенту Международной федерации за права человека (FIDH) Алесю Беляцкому 12 августа было предъявлено официальное обвинение по части 2 статьи 243 Уголовного кодекса Беларуси («Уклонение от уплаты сумм налогов, сборов в особо крупном размере»). Эта статья предусматривает наказание в виде лишения свободы от 3 до 7 лет.

Об этом «БР» сообщил член правления «Вясны» правозащитник Владимир Лабкович. Как он отметил, еще не решен вопрос с мерой пресечения А. Беляцкому - 14 августа истекают 10 суток ареста и возможно его освобождение под подписку о невыезде. «Мы расцениваем арест Беляцкого как продолжение политических репрессий, это политически мотивированное дело в отношении лидера правозащитного центра «Вясна», - заявил В. Лабкович.

Напомним, А. Беляцкий был задержан вечером 4 августа в Минске сотрудниками департамента финансовых расследований Комитета госконтроля. Основанием для задержания правозащитника стала информация о его банковских счетах, переданная белорусским властям органами юстиции Литвы и Польши в рамках двусторонних договоров об оказании правовой помощи.

В Польше, которая имеет свою историю диссидентства и взаимопомощи времен «Солидарности», информация о том, что Генпрокуратура выдала Беларуси операции по счетам правозащитника, вызвала общественное цунами. В Генпрокуратуре проходит служебное расследование по этому вопросу. Премьер-министр Польши Дональд Туск считает, что «Генеральная прокуратура совершила вопиющую ошибку, предоставив Беларуси реквизиты банковского счета Беляцкого». Это произошло в июне по просьбе Минска.

Глава правительства напомнил, что генеральный прокурор в Польше является независимым от правительства, и добавил, что «в этом есть как плохие, так и хорошие стороны». Руководитель правительства называл генпрокурора «некомпетентным», а решение - «принятым по глупости».

Глава правительства сказал, что не принимает интерпретацию генерального прокурора - он не знал, что имеет дело с запросом на оппозиционера. Дональд Туск считает, что проверка через Интернет этого вопроса для любого гражданина заняла бы две минуты. Будут названы все лично виновные в этом инциденте и сделаны выводы об их профессиональной пригодности.

Профсоюз «Солидарность» принял заявление, в котором говорится: «Солидарность» просит провести расследование действий органов, ответственных за представление информации о частном банковском счете Алеся Беляцкого, лидера «Вясны». Это позор, что высшее руководство нашей страны - страны с такой уникальной историей борьбы за свободу и независимость - поддерживает своими действиями правительство Лукашенко. «Солидарность» считает, что нет никаких оправданий для представления информации о банковском счете лидера правозащитного центра «Вясна». Профсоюзы требуют от генерального прокурора привлечь к ответственности виновных за этот инцидент».

Спикер сейма Польши Гжегож Щетина заявил на пресс-конференции 12 августа, что ожидает привлечения к ответственности виновных за передачу информации. «Мы чувствуем удивление и возмущение», - заявил спикер.

Парламентарии Литвы извинились за действия чиновников своей страны, ставшие поводом для ареста А. Беляцкого. Комитет по иностранным делам литовского сейма инициировал проведение межведомственного расследования, чтобы выяснить, почему Минюст страны, делясь банковской информацией с Минском, не учел того, «что белорусскими властями эта информация может использоваться в политических, репрессивных целях». «Мы должны выяснить, кто причинил Литве этот позор», - заявил глава парламентского комитета Эммануэлис Зингерис. Посол Литвы в Беларуси Эдминас Багдонас принес извинения супруге А. Беляцкого Наталье.

«Беларусь имеет право наказывать за сокрытие налогов как за преступление. Но обвинения, предъявленные Алесю Беляцкому, политически мотивированы. Он - узник совести, задержанный за осуществление правозащитной работы, и он должен быть немедленно освобожден», - отметила эксперт Amnesty International по Беларуси Хезер Макгилл в заявлении организации от 11 августа.

По ее словам, отказывая в регистрации неправительственной организации и лишая ее возможности открыто функционировать, Беларусь «не оставляет таким активистам, как А. Беляцкий, иного выбора, кроме как использовать банковские счета в соседних странах для финансирования своей работы».

Х. Макгилл назвала арест А. Беляцкого частью «продолжающегося и давнего притеснения активистов гражданского общества и правозащитников, которое усилилось в связи с репрессиями в отношении гражданского общества после президентских выборов в декабре 2010 года».

Президент Международной федерации за права человека Сухайр Белхассен обратилась к премьер-министру Литвы Андрюсу Кубилису с открытым письмом по поводу ареста своего заместителя А. Беляцкого:

«Как вам известно, уголовное дело было возбуждено белорусскими властями на основании информации о счете Беляцкого в литовском банке DnB NORD. Белорусские налоговые органы расценили этот счет как личный доход Беляцкого и обвинили его в сокрытии доходов. На самом деле эти средства, перечисленные международными организациями, не использовались в личных целях, а шли на финансирование законной правозащитной деятельности ПЦ «Вясна».

Средства на финансирование правозащитной деятельности приходилось переводить на этот банковский счет из-за неоднократных отказов в регистрации ПЦ «Вясна» и с учетом статьи 193.1 Уголовного кодекса («Действие от имени незарегистрированной организации»). В Беларуси законное использование этих ресурсов было невозможным из-за репрессивного законодательства, целью которого является преследование активистов гражданского общества. Таким образом, информация, выданная Министерством юстиции Литвы, может привести к дальнейшему судебному преследованию господина Беляцкого. Мы возмущены по поводу того, что Министерство юстиции Литвы, страны - участницы Европейского Союза, не приняло во внимание безопасность Беляцкого при передаче информации относительно его счета в литовском банке властям Беларуси».

Отмечая недавние заявления Министерства юстиции о приостановлении юридической помощи Беларуси по этому делу, организация выражает сожаление по поводу того, что благодаря передаче этих данных Литва поставила под угрозу судьбу Беляцкого, нарушив тем самым рекомендации ЕС по защите прав правозащитников».

В самой же Беларуси начинается кампания за изменение меры пресечения для А. Беляцкого на подписку о невыезде под поручительство. «Поручительства мы будем передавать в органы прокуратуры Беларуси», - заявляют активисты «Вясны». Эта процедура предусмотрена статьей 121 Уголовно-процессуального кодекса Республики Беларусь. Поручительства будут собираться во всем мире, и правозащитники не сомневаются, что под ними подпишется множество известных людей.

Учитывая, скольким людям была оказана помощь, активисты рассчитывают в ближайшее время собрать 1.000 подписей. За три дня, по словам В. Лабковича, их собрано более 500. Выступить поручителем можно в офисах самой «Вясны», РПОО «Белорусский Хельсинкский комитет», РОО «Белорусская ассоциация журналистов», новом офисе Партии БНФ.

**Татьяна КАЛИНОВСКАЯ,**
*«Белорусы и рынок», №30, 15-21 августа 2011 г.*

# ДА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА НЕ ДАХОДЗЯЦЬ ЛІСТЫ АД ЖОНКІ І СЯБРОЎ



19 жніўня ў ізалятары на Валадарскага з арыштаваным кіраўніком праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесем Бяляцкім сустрэўся адвакат.

Алесь Бяляцкі бачыўся з адвакатам у другой палове дня. Пра гэтую сустрэчу «Свабодзе» распавёў калега Бяляцкага, праваабаронца Ўладзімір Лабковіч:

«Сёння адбылася сустрэча Бяляцкага з адвакатам. Можна паведаміць, што Алесь трымаецца сваёй былой пазіцыі прынцыпова, ён ня лічыць сябе вінаватым. Ня скардзіцца на здароўе і адчувае сябе маральна моцна. Але ён не атрымлівае пакуль што лістоў. Ніякіх. Ані ад жонкі, ані ад калегаў і сяброў. Вось тое, што мы яму адпраўлялі, ён дагэтуль не атрымаў. Мы гэта ўспрымаем як спробу аказаць на яго псіхалагічнае ўздзеяньне. Маўляў, пра яго забыліся, — што няпраўда».

Карэспандэнт: «Ці вядуцца зь ім нейкія следчыя дзеяньні?».

«Пра гэта нічога не вядома, не магу сказаць. Адвакат даў падпіску пра неразгалошванне і ня можа нічога пра гэта казаць. Нам і раней нічога не было вядома, ці вядуцца зь ім якія-небудзь следчыя дзеяньні».

Карэспандэнт: «Як наконт умоваў, у якіх яго трымаюць?».

«Ён ня скардзіцца. Безумоўна, гэтыя ўмовы кепскія, як і ўва ўсёй сістэме турмаў, але ён не выказвае скаргаў ані на здароўе, ані на гэтыя ўмовы».

Карэспандэнт: «Ці працягваецца збор паручальніцтваў за вызваленне Бяляцкага да суду?».

«Так. Мы ўжо сабралі каля 600 паручальніцтваў, і яны на будучым тыдні будуць перадавацца па інстанцыях. Гэта ня значыць, што мы спыняем гэтую кампанію, мы будзем працягваць збор паручальніцтваў да самога суду. Пры гэтым пагля дзім, як адрэагуе беларуская сістэма, у прыватнасці пракуратура, на больш чым 600 паручальніцтваў, у тым ліку людзей, вядомых у краіне і ў свеце».

Алеся Бяляцкага арыштавалі 4 жніўня. Вядомы праваабаронца абвінавачваецца ў няплаце падаткаў з вялікіх прыбыткаў. Скандалы з выдачай беларускім афіцыйным органам дадзеных пра банкаўскія рахункі Алеся Бяляцкага ў Польшчы і Літве ўжо прывялі да шэрагу адставак службоўцаў гэтых краінаў.

**Алег Груздзіловіч,**
**Радыё Свабода**

# У МАГІЛЁВЕ ЎТРЫМЛІВАЮЦЦА ВОСЕМ ПАЛІТЫЧНЫХ ЗНЯВОЛЕНЫХ

### ДЗМІТРЫЙ БАНДАРЭНКА




Нарадзіўся ў Менску 28 верасня 1963 году. У 1984 г. скончыў Інстытут фізічнай культуры. У 1995-1996 гг. працаваў на незалежным Радыё 101.2 FM, закрытым уладамі. Адзін з заснавальнікаў грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97», каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». У часе прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. быў актывістам штабу кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. Быў арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ. Прад'яўленае абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкаму па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). 4 красавіка абвінавачанне зменена на арт. 342 (арганізацыя дзеяннаў, што груба парушаюць грамадскі парадак, ці ўдзел у іх).

**26 красавіка асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі.**

Дз.Бандарэнка адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### ДЗМІТРЫЙ БУЛАНАЎ

Нарадзіўся ў Менску 25 жніўня 1984 году. Скончыў менскі медыцынскі каледж №2, два гады працаваў медбратам у інфекцыйнай бальніцы, лячыў цяжка хворых, у тым ліку і на СНІД. Пакутуе на шэраг хранічных хваробаў,



сярод іх рэўматызм, небяспечныя алергічныя рэакцыі; праз гэта зараз пад пагрозай ягонае жыццё. Палітыкай не займаўся, ніколі не быў сябрам палітычных партыяў і рухаў. Быў затрыманы і збіты падчас разгону мірнай акцыі 19 снежня, яму рассеклі галаву. Асуджаны на 10 сутак арышту. Пасля вызвалення з ізалятару на Акрэсціна быў затрыманы паўторна 12-га студзеня 2011 г.

**26 траўня ў Ленінскім судзе Менску асуджаны на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Дз.Буланаў адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### АЛЯКСАНДР МАЛЧАНАЎ



Нарадзіўся 22 чэрвеня 1988 году ў Барысаве. Вучыўся ў Барысаўскай школе № 22. Паступіў у Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут у Менску. Пасля акцыі пратэсту на Плошчы быў затрыманы 6 студзеня ў сябе дома ў Барысаве. Было прад'яўлена абвінавачаньне па справе аб масавых беспарадках.

**2 сакавіка асуджаны ў Фрунзенскім судзе Менску на 3 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

А.Малчанаў адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### ІЛЛЯ ВАСІЛЕВІЧ



Нарадзіўся 6 жніўня 1991 году ў г. Баранавічы. Атрымаў базавую адукацыю ў гімназіі № 4 г. Баранавічаў. Паступіў у Менскі палітэхнічны каледж. Адседзеў 10 сутак арышту за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня і быў адпушчаны дадому. 5 студзеня Іллю паведамілі, што ён з'яўляецца падазраваным па крымінальнай справе аб масавых беспарадках, і змясцілі спачатку ў ІЧУ на Акрэсціна, а потым перавялі ў СІЗА на вул. Валадарскага.

**14 траўня асуджаны на 3 гады зняволення.**

І.Васілевіч адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №19.

### ДЗМІТРЫЙ УС



Кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 г. Беспартыйны. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў Менску. Скончыў юрыдычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэту. Працаваў рабочым на заводзе «Інтэграл» у Менску, пазней - у сферы будаўніцтва. З 1992 г. – дырэктар выдавецтва «Трывіюм». Затрыманы ў Менску ў ноч з 19 на 20 снежня пасля масавай акцыі пратэсту. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Удзень 20 снежня выпушчаны адтуль пад падпіску аб невыездзе. Абвінавачанне па арт. 293 КК прад'яўленае 18 сакавіка 2011 г. Заяўляў пра ціск з боку следства з мэтай атрымання абвінаваўчых паказанняў на яго сябра Міколу Статкевіча.

**26 траўня ў Ленінскім судзе Менску асуджаны да 5,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Дз.Ус адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №19.

### АЛЕГ ФЕДАРКЕВІЧ




Нарадзіўся 19 сакавіка 1961 у Карэліцкім раёне Гродзенскай вабласці, дзе скончыў школу 10-годку. У школьны час марыў стаць лётчыкам і па заканчэнні навучальнай установы паступіў у Армавірскую Лётную Вучэльню, што месціцца ў Краснадарскім краі. Але правучыўшыся 3 гады захварэў на сухоты, атрымаў II ступень інваліднасці і быў камісаваны з вучэльні з прычыны хваробы. Мае небяспеку рэцыдыву хваробы.

Пераехаў з сям'ёй у Мінск, дзе паступіў у Мінскі Палітэхнічны Інстытут, стаўшы па выніку прафэсійным інжынерам-будаўніком. З таго часу прысвячаў свае жыццё менавіта будаўніцтву, як па працы, так і ў вольны час. Апроч таго, захапляецца турызмам, любіць гісторыю, асабліва цікавіцца гісторыяй Крыма, куды і летам надзвычай часта ездзіць. Жанаты. Мае дачку.

19 сакавіка быў затрыманы за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў, адбываў адміністрацыйны арышт у ЦІП на завулку Акрэсціна, дзе былі прад'яўлены абвінавачанні па частцы 2 арт. 293 «Масавыя беспарадкі».

**12 траўня 2011 быў асуджаны судом Маскоўскага раёну да 3,5 гадоў пазбаўлення волі з накіраваннем у калонію ўзмоцненага рэжыму.**

А.Федаркевіч адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №19.

### ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ



### МІКАЛАЙ ДЗЯДОК



Я.Васьковіч і М.Дзядок былі **асуджаныя на 7 і 4,5 гады** па «справе анархістаў» і адбываюць пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

# Напішыце палітзняволеным:

**Паштовы адрас Дзмітрыя Бандарэнкі, Дзмітрыя Буланава, Аляксандра Малчанава, Яўгена Васьковіча і Мікалая Дзядка:**

**213105, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія №15**

**Паштовы адрас Іллі Васілевіча, Дзмітрыя Уса і Алега Федаркевіча:**

**212030, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, папраўчая калонія №19**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.